РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 68 (7881) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 2 верасня 2000 г. Цана 25 руб.

# РАЁННЫ СХОД ДЭПУТАТАЎ

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі аб скліканні з'езда дэпутатаў Саветаў, 31 жніўня 2000 года ў зале пасяджэнняў райвыканкама адбыўся раённы сход дэпутатаў раённага і сельскіх Саветаў. У рабоце сходу ўдзельнічалі запрошаныя кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, арганізацый, старшыні сельскіх Саветаў, адказныя работнікі райвыканкама.

Вёў сход старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык. Былі выбраны рабочы прэзідыум і сакратарыят.

На сходзе разгледжана пытанне "Аб сацыяльна-эканамічным становішчы і палітычнай сітуацыі ў раёне". З дакладам выступіў старшыня райсавета М. С. Трубчык.

У абмеркаванні пытання парадку дня выступілі Тамара Бабкова, начальнік раённага аддзела статыстыкі, дэпутат райсавета па Бароньказўскай выбарчай акрузе № 22, Надзея Панічэўская, намеснік дырэктара Беларускага цэментнага завода па кадрах і быту, дэпутат раённага Савета па Маладзёжнай выбарчай акрузе № 14, Вольга Касіцына, выконваючая абавязкі старшыні Забычанскага сельскага выканаўчага камітэта, Вячаслаў Арэхаў, старшыня калгаса "Праўда", дэпутат раённага Савета па Машаўской выбарчай акрузе № 28, Уладзімір Курачкін, дэпутат Бялынкавіцкага сельскага Савета дэпутатаў па Каніцкай выбарчай акрузе № 8.

Па абмеркаванаму пытанню сход прыняў пастанову.

Удзельнікі сходу разгледзелі пытанне аб выбарах дэлегатаў на з'езд Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь. Шляхам адкрытага галасавання выбраны 6 дэлегатаў, з якіх 2 – ад раённага Савета і 4 – ад сельскіх Саветаў. М. С. Трубчык ад імя ўсіх дэпутатаў раёна, сябе асабіста павіншаваў выбраных на з'езд Саветаў дэлегатаў, пажадаў ім плённай працы на карысць Радзімы і грамадства.

## Сесія раённага Савета

31 жніўня г.г. адбылася нечарговая сесія раённага Савета дэпутатаў. Акрамя дэпутатаў, у яе рабоце ўдзельнічалі кіраўнікі калгасаў, прадпрыемстваў, арганізацый, якія не ўваходзяць у склад райсавета. Вёў сесію старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык.

На сесіі разгледжана пытанне аб зацвярджэнні рашэнняў і распараджэнняў раённага выканаўчага камітэта і ўдакладненні паказчыкаў раённага бюджэту на 2000 год. З інфармацыяй выступіла загадчыца фінансавага аддзела райвыканкама Святлана Каратцова.

Сесія райсавета прыняла па гэтаму пытанню адпаведнае рашэнне. Згодна з ім павялічана даходная частка бюджэту, выдзелены сродкі аддзелам адукацыі, фізкультуры і спорту, мясцовым органам улады, раённай ветстанцыі.

Заслухана інфармацыя начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталя Грышанава аб змяненні прагнозу дзяржзакупак збожжа на 2000 год. Яна прынята да ведама. Зацверджаны прагноз дзяржаўных закупак зерня з улікам унесеных змен.

УРАДЖАЙ-2000

## Справілі дажынкі

Нягледзячы на сёлетнія складаныя ўмовы ўборкі збожжавых, калгас "Дуброва" ў ліку першых завяршыў гэту важную кампанію. Валавы збор збожжавых склаў 3823 тоны, ураджайнасць 26,8 цэнтнера з гектара. І гэта самы высокі паказчык у раёне.

Урачыста справілі дажынкі ў калгасе, на якіх сабраліся ўсе, хто прымаў непасрэдны ўдзел ва ўборцы, а таксама жыхары вёскі, госці.

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці мясцовага Дома культуры падрыхтавалі святочны рэпертуар да гэтай падзеі. Менавіта яны і адкрылі свята песняй "Дажыначкі". З віншавальнымі словамі ў адрас хлебаробаў звярнулася бібліятэкар Наталля Дамахіна. А вялізны каравай з новага хлеба дырэктар ДК Людміла Чукіла па традыцыі ўручыла старшыні калгаса Уладзіміру Казлову, а той перадаў яго камбайнерам – непасрэдным удзельнікам жніва і павіншаваў усіх з хлебаробскай перамогай, падзякаваў усім за іх уклад у гэту немалаважную справу. Менавіта дзякуючы камбайнерам, вадзіцелям, занятым на адвозцы, работнікам зернетока, іх руплівай і самааддачай працы, і закончана ў тэрмін уборка, перапрацавана і даведзена да ладу збожжа.

Падведзены вынікі спаборніцтва на жніве. І ў гэты дзень віталі лепшых, уручалі ім прэміі. А гэта экіпаж камбайнераў у складзе Вячаслава Балдуева і Віктара Арлова, які намалаціў найбольшую колькасць збожжа і заняў першае месца па калгасу. Менавіта іх прозвішчы не выходзілі з раённай Дошкі гонару.

Другое месца ў Віктара Залекіна і Юрыя Юркова, трэцяе – у Анатоля Новікава і Мікалая Арлова.

Заахвочаны былі вадзіцелі, работнікі зернетоку.

Ім прысвячалі свае песні самадзейныя артысты.

Удзел у свяце дажынак прынялі старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў, першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў. Ад імя райвыканкама Міхаіл Барысаў павіншаваў хлебаробаў калгаса з перамогай, пажадаў новых поспехаў, здароўя і дабрабыту.

Ул. інф.

# ПРА КАРМЫ ДБАЙ – ПРА ЛЮДЗЕЙ НЕ ЗАБЫВАЙ



У калгасе "Бароньк" сёлета нарыхтавана 13,2 кармавой адзінкі на ўмоўную галаву жывёлы. Гэта лепшы паказчык у раёне. У час наведвання гаспадаркі тут працаваў міжгаспадарчы атрад па нарыхтоўцы кармоў. Убіралі кукурузу на сілас.

Быў канец жніўня. Стаяў цёплы сонечны дзень. Завіталі на машынны двор калгаса, каб даведацца, дзе зараз працуе корманарыхтоўчая тэхніка. У майстэрні вадзіцелі рамантавалі машыны, на двары стаяла няспраўная касілка, камбайн з надпісам "Спіртзавод" і інш. Тут не было ніводнага спецыяліста. Толькі да касілкі паспяшаўся намеснік кіраўніка ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" Л. А. Урупін, які і паведаміў пра каардынаты корманарыхтоўчага атрада. Ён і прапанаваў:

— Вось ЗІЛ заправіцца, паедзем разам.

... Машына хутка даехала па асфальтаванай дарозе да кукурузнага поля каля вёскі Паўленка, дзе працавала тэхніка. На КСК-100 на ўскрайку спыніўся М. І. Сафронаў, які паведаміў Л. А. Урупіну аб паломках касілкі, як выпраўляі іх. Праз некалькі хвілін Мікалай Іванавіч ужо накіраваўся да сцяны кукурузы, побач трымаўся трактар маладога механізатара Аляксандра Лаўрыненкі. Кузаў запаўняўся хутка, а побач чакаў сваёй чаргі ЗІЛ М. А. Іванова. Канвеер працаваў няспынна. Нагружаная зялёнай масай тэхніка спяшалася да сіласнай ямы каля Паньбудзянскай фермы. Фуражыр калгаса Т. В. Смоліна, якая вядзе ўлік прывезенай масы, паведаміла:

— Як бачыце, заканчваем закладваць сіласную яму на гэтай ферме. Працавалі яшчэ і на Бароньказўскай. Сёлета кармоў нарыхтавалі дастаткова.

Яна назвала прозвішчы лепшых механізатараў, якія даставілі найбольшую колькасць тон. Гэта Аляксандр Лаўрыненка, Мікалай Іваноў, Сяргей Гарбачоў, Уладзімір Верам'ёў і іншыя.

Атрад у калгасе "Бароньк" працаваў амаль два тыдні. За гэты час убрана 130 гектараў кукурузы. На сілас была выкарыстана не толькі гэта культура, здрабнялі і падвозілі сюды салому, якая добра аздоблена пустазеллем, а таксама другі ўкос траў.

Дарэчы, разам з адказным за работу атрада А. Л. Урупіным мы пабылі і на полі за Бароньк амі, дзе працаваў на КСК-100 В. М. Шугаёў. Калі каля Паўленкі не адчувалася недахопу транспартных адзінак для перавозкі зялёнай масы, то тут прастоі касілкі былі значныя. Справа ўся ў тым, што адлегласць ад поля да сіласнай ямы ў Паньбудзе, як зазначыў В. Шугаёў, каля 10 кіламетраў. Вось таму на праезды шмат траціцца часу. Але ў калгасе не ўлічылі гэтай акалічнасці. Ці наогул пусцілі справу на самацёк, бо мы аб'ехалі ўсе палі, дзе ішла нарыхтоўка сіласнай масы, і на полі не сустрэлі ніводнага спецыяліста. Хто тады можа выслухаць праблемы механізатараў, ці ўбачыць іх нязручнасці? Хаця, заўважу, гарадскія арганізацыі накіравалі сваю тэхніку, розначыўшы, што ад гэтага будзе карысць. А ў калгасе не паклапаціліся ўсюды як след арганізаваць яе работу. Усе пытанні, як здалося, вырашаў Л. А. Урупін. Ён накіроўваў трактары то на адно, то на другое поле, дзе ў іх была большая патрэба. Нават пытанне арганізацыі харчавання абяцаў вырашыць механізатарам, бо ўжо некалькі дзён тым "забыліся" прывезці вячэру. А людзі ж тут працуюць і з калгаса імя Калініна, "Праўды", райаграпрамтэхнікі, ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія", ДБУ-37, ДБУ. І ўсё трымалася на іх сумленні.



Пасля атрад пераехаў у калгас імя Калініна. Механізатары настроены працаваць сумленна, толькі б пра іх памяталі і дапамагалі ім.

Наталля КАВАЛЁВА.

На здымках: вадзіцель ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" Мікалай ІВАНОЎ; ідзе "зялёнае жніво".

Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.

## Патанаюць бычкі ў жыжцы

На жывёлагадоўчым комплексе, што размешчаны на Слабадзе, два гаспадары – калгасы "Парыжская камуна" і "Ленінскі шлях". Калі мы зазірнулі ў пяцірадназ памяшканне, дзе знаходзіцца на адкорме жывёла калгаса "Парыжская камуна", стварылася ўражанне, што тут ніхто з кіраўніцтва даўно ўжо не быў. Жывёла ў гразі, жыжка з ям не адпампоўваецца.

— Адарвецца бык з прывязі, — скардзіцца даглядчыца Любоў Дзяяткіна, — і прывязаць яго немагчыма. Хіба ў такой гразі, калі жывёла не прыляжа, высокія прывагі атрымаць можна? Ні гумавых ботаў, ні халатаў не выдавалі нам.

Кіраўніцтва калгаса, ёсць жа і галоўны заатэхнік Уладзімір Савіцкі і загадчык адкормачнай фермы Іван Шляхценка, старшыня калгаса Аляксандр Міхеенка, урэшце, не прынялі своечасова меры, каб у памяшканні была чысціня і парадак. Зразумела, што тэхніка зараз занята на палявых работах. Той жа трактарыст Кавалёў, які раніцай напампаваў дзве бочкі жыжкі, знік. Магчыма, больш неадкладная работа наспела. Але ж і ферму не трэба забываць.

— Хаця б на рад 2 краны ўсталявілі, — гаворыць слесар-мышчык Іван Марозаў. – Вада з ваданапорнай вежы паступае самацёкам. Жыжказборныя ямы запоўнены. Кармушкі працякаюць.

375 адкормаў знаходзіцца ў памяшканні. Для адкорму на бразе патрэбна салома. Усяго некалькі цюкоў яе ляжыць на спецыяльнай пляцоўцы, запас на зіму не ствараецца.

Чатырохраднае памяшканне калгаса "Ленінскі шлях" пакуль пустуе, яно патрабуе рамонту. Нягледзячы на неаднаразовыя напамінкі з райсельгасхарчу, запэўніванні старшыні калгаса Мікалая Таўпекі, да падрыхтоўкі памяшкання да зімоўкі так і не прыступілі. Не завозіцца і салома ў запас. Адно становіцца: на момант праверкі трактарыст адпампоўваў гноевую жыжку, якой скапілася ўжо нямала.

Віктар ЦІХАНАЎ.

## ЗВЕСТКІ аб надоях малака ў калгасах раёна па стану на 31 жніўня гг.

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – атрымана малака ад каровы ў 2000 г. (кг), трэцяя – надоена ў 1999 г. (кг).*

| | | |
|---|---|---|
| "Новы быт" | 10,2 | 9,9 |
| "Пар. камуна" | 9,7 | 9,8 |
| "Радзіма" | 9,1 | 9,1 |
| "Прагрэс" | 8,1 | 7,9 |
| "Новае жыццё" | 7,5 | 7,8 |
| імя Калініна | 7,0 | 6,1 |
| "Лен. шлях" | 6,8 | 6,4 |
| "Расія" | 6,7 | 6,8 |
| "Кранштат" | 6,7 | 6,6 |
| "Бароньк" | 6,6 | 6,5 |
| "Забычанне" | 6,5 | 4,9 |
| імя К. Маркса | 6,4 | 6,5 |
| "Смольскі" | 6,4 | 6,8 |
| "Дуброва" | 6,4 | 6,3 |
| "Праўда" | 6,2 | 6,1 |
| ПА РАЁНУ: | 7,34 | 7,14 |

# АБ УЧАСТКОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯХ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ

***У адпаведнасці з арт. 34 і 35 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь раённы выканаўчы камітэт РАШЫЎ:***
***утварыць участковыя выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання ў наступным складзе:***

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ БАЛЬНІЧНАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ №1**

**БОНДАРАВА Лідзія Канстанцінаўна** – урач фізіятэрапеўт паліклінікі раённай бальніцы, вылучана сходам працоўнага калектыву паліклінікі раённай бальніцы.

**ГАЎРЫЛІН Васіль Фёдаравіч** – урач бактэрыёлаг раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, вылучаны сходам працоўнага калектыву раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

**КЛІМЯНКОВА Валянціна Іванаўна** – галоўная медыцынская сястра раённай бальніцы, вылучана сходам працоўнага калектыву адміністрацыі раённай бальніцы.

**ЛАЎРЫНОВІЧ Святлана Якаўлеўна** – урач акушэр-гінеколаг акушэрска-гінекалагічнага аддзялення раённай бальніцы, вылучана сходам працоўнага калектыву акушэрска-гінекалагічнага аддзялення раённай бальніцы.

**ПЕРАГАРУЛЬКА Алег Мікалаевіч** – урач анестэзіёлаг хірургічнага аддзялення раённай бальніцы, вылучаны сходам працоўнага калектыву хірургічнага аддзялення раённай бальніцы.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАМУНАРСКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ №2**

**АНЦІПЕНКА Алена Мікалаеўна** – выхавальніца групы падоўжанага дня Камунарскай пачатковай школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ВАВІЛАВА Надзея Мікалаеўна** – выхавальніца школы-інтэрната для дзяцей сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, вылучана выбаршчыкамі.

**ГАЛАЙДА Валерый Сяргеевіч** – дырэктар школы-інтэрната для дзяцей сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, вылучаны сходам працоўнага калектыву школы-інтэрната для дзяцей сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў.

**НІКІЦІНА Галіна Леанідаўна** – начальнік вытворча-тэхнічнай лабараторыі ААТ "Касцюковіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства", вылучана выбаршчыкамі.

**ПАЦЁМКІН Міхаіл Сямёнавіч** – дырэктар ААТ "Касцюковіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства", вылучаны выбаршчыкамі.

**ЦІХАНОЎСКАЯ Алена Мікалаеўна** – бухгалтар ДБУ-37, вылучана сходам працоўнага калектыву ДБУ-37.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАСЦЮКОВІЦКАГА ВЫБАРЧАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ №3**

**АЛЯКСЕЕНКА Святлана Іванаўна** – педагог-арганізатар сярэдняй школы №3 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**БЕРАСТАВА Вольга Валер'еўна** – настаўніца сярэдняй школы №3 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ГУЛАК Ліля Міхайлаўна** – дырэктар сярэдняй школы №3 г. Касцюковічы, вылучана сходам працоўнага калектыву сярэдняй школы №3 г. Касцюковічы.

**ГУЛЬКО Пётр Паўлавіч** – інжынер матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння хлебазавода, вылучаны выбаршчыкамі.

**ВАЛОЎНІКАВА Наталля Мікалаеўна** – начальнік аддзела па рабоце з пярвічнымі арганізацыямі ГА РК БПСМ, вылучана выбаршчыкамі.

**ЛІСТАПАДАВА Аксана Міхайлаўна** – выхавальніца ясляў-сада № 1 "Усмешка", вылучана выбаршчыкамі.

**МАСЛАКОВА Таццяна Анатольеўна** – эканаміст аўтапарку № 8, вылучана сходам працоўнага калектыву аўтапарку № 8.

**МАЦЫНКА Наталля Рыгораўна** – настаўніца сярэдняй школы № 3 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**НАПРЭЕНКА Таццяна Мікалаеўна** – выхавальніца ясляў-сада № 1 "Усмешка", вылучана сходам працоўнага калектыву ясляў-сада № 1 "Усмешка".

**НОВІКАЎ Аляксандр Мікалаевіч** – вартаўнік унітарнага камунальнага прадпрыемства "Бытпаслугі", вылучаны выбаршчыкамі.

**РАСТАРГУЕВА Валянціна Паўлаўна** – сакратар-машыністка сярэдняй школы № 3, вылучана выбаршчыкамі.

**СМОЛІН Васіль Георгіевіч** – начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы РК ГА БПСМ, вылучаны выбаршчыкамі.

**ТАРАСАВА Вольга Васільеўна** – начальнік раённага вузла паштовай сувязі, вылучана сходам працоўнага калектыву раённага вузла паштовай сувязі.

**УЛАНЦІКАВА Ларыса Сяргееўна** – касцюмер дзіцячай школы мастацтваў, вылучана сходам працоўнага калектыву дзіцячай школы мастацтваў.

**ХРАЛЯНОК Тамара Уладзіміраўна** – намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 3 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАСЦЮКОВІЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 4**

**БАДЗЮКОВА Тамара Іванаўна** – дырэктар ОСП "Гандлёвы дом" райпа, вылучана сходам працоўнага калектыву ОСП "Гандлёвы дом" райпа.

**БЯЛОВА Ірына Аляксееўна** – настаўніца сярэдняй школы № 1 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**БЕШЫКА Раіса Пятроўна** – настаўніца сярэдняй школы № 1 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**БОНДАРАВА Валянціна Міхайлаўна** – выхавальніца ясляў-сада № 4 "Сонейка", вылучана выбаршчыкамі.

**БУРДЗЕЛЬ Святлана Уладзіміраўна** – загадчыца цэнтральнага склада ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Бытпаслугі", вылучана сходам працоўнага калектыву УКП "Бытпаслугі".

**ЗАСІМЕНКА Ала Пятроўна** – загадчыца аддзела па архівах і справавытворчасці райвыканкама, вылучана выбаршчыкамі.

**КАВУРАЎ Мікалай Іванавіч** – дырэктар магазіна філіяла РУПП "Ольса" ПТНП г. Касцюковічы, вылучаны сходам працоўнага калектыву філіяла РУПП "Ольса" ПТНП.

**КОТАЎ Мікалай Васільевіч** – галоўны інжынер ААТ "Касцюковіцкі малаказавод", вылучаны сходам працоўнага калектыву ААТ "Касцюковіцкі малаказавод".

**КРАЎЦОЎ Алег Мікалаевіч** – мастак-афарміцель ДРБУ-130, вылучаны выбаршчыкамі.

**ЛЕБЕДЗЕВА Надзея Гаўрылаўна** – дырэктар сярэдняй школы № 1 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ЛУК'ЯНАВА Валянціна Іванаўна** – настаўніца сярэдняй школы № 1 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ПАТАПЕНКА Лідзія Уладзіміраўна** – галоўны бібліятэкар-метадыст цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, вылучана выбаршчыкамі.

**СУДЗІЛОЎСКІ Аляксандр Пятровіч** – галоўны ветэрынарны ўрач раёна, вылучаны сходам працоўнага калектыву раённай ветэрынарнай станцыі.

**СРЭК Людміла Аркадзьеўна** – выхавальніца ясляў-сада № 4 "Сонейка", вылучана сходам працоўнага калектыву ясляў-сада № 4 "Сонейка".

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАСЦЮКОВІЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 5**

**ВАЛУЧАЎ Эдуард Міхайлавіч** – рабочы ДРБУ-130, вылучаны выбаршчыкамі.

**ВІННІКАЎ Сяргей Іванавіч** – дырэктар ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія", вылучаны сходам працоўнага калектыву ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія".

**ГЛУШАНКОВА Кацярына Дзмітрыеўна** – выхавальніца ясляў-сада № 7 "Вясёлка", вылучана выбаршчыкамі.

**ЖУКАВА Любоў Васільеўна** – дырэктар сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы, вылучана сходам працоўнага калектыву сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы.

**КАЛТУНОВА Марыя Андрэеўна** – настаўніца сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ЛЯОНАЎ Алег Якаўлевіч** – в.а дырэктара ААТ "Аўтамотасервіс і гандаль", вылучаны выбаршчыкамі.

**ЛУКАШЭНКА Віктар Станіслававіч** – настаўнік сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы, вылучаны выбаршчыкамі.

**МАРЧАНКА Алена Васільеўна** – педагог-арганізатар сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**МІХАЛЁЎ Аляксандр Міхайлавіч** – намеснік начальніка пажарнай аварыйна-выратавальнай службы, вылучаны сходам працоўнага калектыву пажарнай аварыйна-выратавальнай службы.

**АСМАЛОЎСКАЯ Ларыса Мікалаеўна** – намеснік дырэктара цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы па рабоце з дзецьмі,вылучана выбаршчыкамі.

**ПАНЦЯЛЕЕВА Таццяна Іванаўна** – інжынер вытворчага аддзела ПМК-260, вылучана сходам працоўнага калектыву ПМК-260.

**САВІНЕЦ Тамара Васільеўна** – загадчыца аддзела ЗАГС райвыканкама, вылучана выбаршчыкамі.

**ТАЛКАЧОВА Жанна Міхайлаўна** – выхавальніца ясляў-сада № 7 "Вясёлка", вылучана выбаршчыкамі.

**ХАЎРОНАВА Ала Аляксееўна** – намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 2 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАСЦЮКОВІЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 6**

**БАРЫСАЎ Сяргей Вячаслававіч** –начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва ПРУП БЦЗ, вылучаны выбаршчыкамі.

**БАБКОВА Вера Мікалаеўна** – брыгадзір аддзела ведамаснай аховы ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**БЛАЖКО Юлія Адольфаўна** – начальнік санітарна-тэхнічнай лабараторыі ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**ГАЛОЎЧАНКА Валянціна Яўгенаўна** – загадчыца інтэрната 1а ЖЭУ ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**ДАБРЫДНЕЎ Мікалай Макаравіч** – намеснік галоўнага механіка ПРУП БЦЗ, вылучаны выбаршчыкамі.

**ДУВАЛІН Аляксандр Няфёдавіч** – старшыня прафсаюзнага камітэта ПРУП БЦЗ, вылучаны выбаршчыкамі.

**КУЗНЯЦОВА Вера Уладзіміраўна** – дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, вылучана сходам працоўнага калектыву цэнтральнай бібліятэкі.

**ЛІСТАПАДАВА Наталля Уладзіміраўна** — эканаміст фінансавага аддзела ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**МАЖЭЙКА Ірына Аляксееўна** – старшы адміністратар гасцініцы "Ясень" ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**ПАНІЧЭЎСКАЯ Надзея Рыгораўна** – намеснік дырэктара па кадрах і быту ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**СІЛІЧЭНКА Людміла Уладзіміраўна** – начальнік планава-эканамічнага аддзела ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**ЦІМАШЭНКА Таццяна Адамаўна** – тэхнолаг ТПДТ "Цэментгандаль" ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**ЧЭКУЛАЕЎ Віктар Васільевіч** – галоўны інжынер райсельэнерга, вылучаны выбаршчыкамі.

**ШЫНКЕВІЧ Наталля Валер'еўна** – аператар размнажальнай тэхнікі ПРУП БЦЗ, вылучана выбаршчыкамі.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ КАСЦЮКОВІЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 7**

**БОЛЦІК Валянціна Рыгораўна** – настаўніца сярэдняй школы №4 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ГОЛУБ Сяргей Мікалаевіч** – настаўнік сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучаны выбаршчыкамі.

**ГЛУШАКОВА Тамара Паўлаўна** – дырэктар сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучана сходам працоўнага калектыву сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы.

**ГЕРМАН Мікалай Мікалаевіч** – намеснік упраўляючага будтрэста № 10 "Цэментбуд" па сацыяльных пытаннях і інфармацыйнай рабоце, вылучаны выбаршчыкамі.

**ДУКАЧОВА Антаніна Аляксееўна** – намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ІВАШКА Таццяна Аркадзьеўна** – інжынер планава-вытворча-тэхнічнага аддзела УМ-268 будтрэста № 10 "Цэментбуд", вылучана выбаршчыкамі.

**КРЫСАНАВА Надзея Уладзіміраўна** – вядучы інжынер вытворча-камерцыйнага аддзела будтрэста № 10 "Цэментбуд", вылучана выбаршчыкамі.

**КАСЦЯНКОВА Ніна Паўлаўна** – настаўніца сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**ЛАДЗІСАВА Ніна Леанідаўна** – в.а. начальніка планава-вытворчага аддзела СУОР-267 будтрэста № 10 "Цэментбуд", вылучана сходам працоўнага калектыву СУОР-267 будтрэста № 10 "Цэментбуд".

**МАКСІМЕНКА Ірына Сяргееўна** – настаўніца сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**НАВУМЕНКА Тамара Уладзіміраўна** – намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучана выбаршчыкамі.

**СЦЕФАНЕНКА Аляксандр Уладзіміравіч** – настаўнік сярэдняй школы № 4 г. Касцюковічы, вылучаны выбаршчыкамі.

**СТАРАВОЙТАВА Алена Уладзіміраўна** – намеснік дырэктара цэнтра дзіцячай творчасці, вылучана выбаршчыкамі.

**ЦЕКАВА Аксана Васільеўна** – сакратар-машыністка УПТК будтрэста № 10 "Цэментбуд".

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ СЛАБАДСКОГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 8**

**ВАСІЛЬЕВА Ліля Фёдараўна** – электрамеханік сувязі раённага вузла электрычнай сувязі, вылучана выбаршчыкамі.

**ДУБАДЗЕЛАЎ Віктар Міхайлавіч** – начальнік Касцюковіцкага цэха ўльтракароткахвалевых радыёстанцый Магілёўскага абласнога вузла радыёсувязі, радыёвяшчання і тэлебачання, вылучаны выбаршчыкамі.

**ЛЕВІН Сяргей Мікалаевіч** – намеснік старшыні калгаса "Парыжская камуна", вылучаны выбаршчыкамі.

**ЛУФЕРАВА Тамара Віктараўна** – бібліятэкар чытальнай залы цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, вылучана выбаршчыкамі.

**МАРУСАВА Ірына Іванаўна** – бухгалтар калгаса "Парыжская камуна", вылучана выбаршчыкамі.

**ПРЫХОДЗЬКА Жанна Фёдараўна** – намеснік галоўнага бухгалтара калгаса "Парыжская камуна", вылучана выбаршчыкамі.

**РАМАНЕНКА Таццяна Міхайлаўна** – галоўны эканаміст калгаса "Парыжская камуна", вылучана выбаршчыкамі.

**РОСЛАЎЦАВА Зоя Васільеўна** – бухгалтар-касір Касцюковіцкага вытворчага ўчастка Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, вылучана выбаршчыкамі.

**УСАВА Ніна Іванаўна** – выхавальніца дзіцячага сада № 3, вылучана выбаршчыкамі.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ БЕЛАДУБРАЎСКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 9**

**ГОБАРАЎ Мікалай Дзмітрыевіч** — намеснік старшыні калгаса "Дуброва" па інфармацыйнай рабоце, вылучаны выбаршчыкамі.

**ДЫЛІКА Сяргей Мікалаевіч** – трактарыст калгаса "Дуброва", вылучаны сходам працоўнага калектыву трактарна-паляводчай брыгады калгаса "Дуброва".

**КАРАЛЁЎ Віктар Міхайлавіч** – вадзіцель калгаса "Дуброва", вылучаны сходам працоўнага калектыву аўтагаража калгаса "Дуброва".

**ЛЯОНАВА Тамара Мікалаеўна** – настаўніца Беладубраўскай сярэдняй школы, вылучана выбаршчыкамі.

**НОРАВА Тамара Міхайлаўна** – настаўніца Беладубраўскай сярэдняй школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ОСІПАВА Жанна Віктараўна** – дырэктар Беладубраўскай сярэдняй школы, вылучана сходам працоўнага калектыву Беладубраўскай сярэдняй школы.

**ЮРКОЎ Аляксандр Васільевіч** – ляснічы Беладубраўскага ляснічтва,вылучаны сходам працоўнага калектыву Беладубраўскага ляснічтва.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ СТУДЗЯНЕЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 10**

**БАГАМАЗАВА Ніна Пятроўна** – прыбіральшчыца службовых памяшканняў Студзянецкай пачатковай школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ВОЙТАВА Валянціна Васільеўна** — загадчыца склада калгаса "Парыжская камуна", вылучана выбаршчыкамі.

**ГРЫНЁВА Валянціна Рыгораўна** – загадчыца Студзянецкай сельскай бібліятэкі, вылучана выбаршчыкамі.

**ЖМЕЙДА Алег Пятровіч** – брыгадзір трактарна-паляводчай брыгады калгаса "Парыжская камуна", вылучаны выбаршчыкамі.

**ІСАЧАНКА Надзея Мікалаеўна** – дырэктар Студзянецкай пачатковай школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ЛАРЧАНКА Васіль Паўлавіч** – паштальён раённага вузла паштовай сувязі, вылучаны выбаршчыкамі.

**ШАЎЦОВА Людміла Міхайлаўна** – палявод калгаса "Парыжская камуна", вылучана выбаршчыкамі.

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ БЯЛЫНКАВІЦКАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 11**

**АЎТУХОЎ Аляксандр Аляксандравіч** – ляснік Бялынкавіцкага ляснічтва, вылучаны выбаршчыкамі.

**АЎЧЫННІКАЎ Уладзімір Васільевіч** – настаўнік Бялынкавіцкай сярэдняй школы, вылучаны выбаршчыкамі.

**УЛАСЕНКА Любоў Піліпаўна** – эканаміст Бялынкавіцкага вытворчага ўчастка Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, вылучана выбаршчыкамі.

**КОРШУНАВА Валянціна Мікалаеўна** – настаўніца Бялынкавіцкай сярэдняй школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ПІЛЬНІКАВА Людміла Віктараўна** – сакратар-машыністка Бялынкавіцкай сярэдняй школы, вылучана выбаршчыкамі.

**ПРАХАРЭНКА Ігар Канстанцінавіч** – мастацкі кіраўнік Бялынкавіцкага сельскага Дома культуры, вылучаны выбаршчыкамі.

**ШЧЭРБА Вольга Іванаўна** – загадчыца склада калгаса "Новы быт", вылучана выбаршчыкамі.

**ЯКАЎЧЫК Вячаслаў Мечыслававіч** – дырэктар Бялынкавіцкай сярэдняй школы, вылучаны выбаршчыкамі

**УЧАСТКОВАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ НОВАСАМАТЭВІЦКАГА ВЫБАРЧАГА ЎЧАСТКА ДЛЯ**

## ПРА ЛЮДЗЕЙ ХАРОШЫХ

# Адчыняйце хутчэй, паштальён ля дзвярэй!



У наш час — час навукі, кібернетыкі, камп'ютэрызацыі многія вытворчыя працэсы механізаваны. Нязменнай толькі застаецца прафесія паштальёна. Ды і хто можа, акрамя чалавека, даставіць чытачам карэспандэнцыю, пісьмы. Ды і не толькі разнесці пошту...

Наталля Сударава працуе паштальёнам 3-га гарадскога аддзялення паштовай сувязі ўжо дзесяць гадоў. І мяняць прафесію не збіраецца. Яна ёй падабаецца, бо, як кажуць, у кожнай прафесіі свая іскрынка, свая крупінка адметнага, прыгожага.

Наталля Дзям'янаўна знайшла гэтую крупінку – гэта ў першую чаргу, зносіны з людзьмі, з тымі чытачамі, якіх яна абслугоўвае. А ўчастак у яе не маленькі – вуліцы Студзянецкая, Заводская, Міру, Мічурына, завулкі Камунарскі, Міру, Студзянецкі, Рэтранслятар. Яе ведаюць многія і чакаюць з нецярпеннем. І не толькі, каб атрымаць газету, а і пагаварыць, пачуць нейкія навіны.

Акрамя ўсяго, Наталля аказвае сваім падпісчыкам паслугі: каму канверты патрэбны, каму за тэлефон трэба заплаціць ці перавод паслаць. Закрылі на Слабадзе аддзяленне сувязі, а старым дабірацца да цэнтра горада цяжка. Вось і просяць паштальёна. А яна нікому не адмовіць.

Не кожны пойдзе на пошту, каб падпісацца на газету, а Наталля Дзям'янаўна і тут прапануе свае паслугі. Яна добры прапагандыст. Цесная ўзаемасувязь у яе з людзьмі, таму, пэўна, і падпіска на перыядычныя выданні не падае. Самая большая яна на яе ўчастку і на раённую газету, за што паштальён была заахвочана рэдакцыяй.

Многае залежыць ад чалавека, ад адносін яго да работы, да даручанай справы. Сваю справу Н. Сударава робіць добрасумленна. Спраўляецца з усімі планавымі паказчыкамі.

За дабрыню, спагадлівасць паважаюць Наталлю Дзям'янаўну падпісчыкі, заўсёды з радасцю чакаюць у сваім доме. Дзверы для паштальёна адчынены.

**Ул. інф.**

**На здымку: Наталля СУДАРАВА.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## СПРАВЫ ВЯСКОВЫЯ

# На водшыбе

На той час, калі мы наведалі Відуіцкае аддзяленне калгаса імя Карла Маркса, жніво ўжо закончылася. Паляводы на збожжатаку падводзілі апошні вынік яму – падчышчалі рэшткі зерня на сушыльным комплексе, пагружаючы яго вёдрамі ў кузаў самаходнага шасі трактарыста Дзмітрыя Баброва. Тут жа знаходзіўся брыгадзір паляводства Віктар Свірыдаў.

—Ураджай не радуе, — з ноткай горычы прызнаўся ён. – Азімае жыта, якое займала 200 гектараў, дало на круг па 17,4 цэнтнера. Выручыла хіба пшаніца, якой з 30 гектараў сабралі 75 тон.

— Можа дапушчаны вялікія страты пры ўборцы, ці яшчэ якая прычына? — робім наводзячае пытанне кіраўніку брыгады. –Відуіцкія землі ніяк не параўнаеш з сялецкімі...

— Яно так і выходзіць, што прыродную ўрадлівасць толькі і выкарыстоўваем. Арганіка не ўносіцца, мінеральных – мізэр. Палі пазарасталі пустазеллем, апрацоўка хімікатамі не праводзіцца.

— Значыць, — удакладняем у Свірыдава, — асноўная прычына недабору ўраджаю засмечанасць палёў. Ці не так?

— Так. Пустазелле перарасло пасевы, асабліва пшаніцы. Дзе ўжо вымалаціш зерне з каласоў старэнькім камбайнам!

— А ў выніку: дрэнна апрацавалі поле – недабралі частку ўраджаю, не ўнеслі ўгнаенні — таксама, убралі без прыстасаванняў на камбайнах – зноў недабор.

— Толькі людзей нашых ганьбіць не трэба,— уступае ў размову старэйшы, з 50-гадовым стажам, калгаснік Дзмітрый Дзмітрыевіч Баброў. — Працавітыя яны. Па 40 цэнтнераў збіралі збажыны з гектара. Мне асабіста па 2,5 тоны выдавалі натурплатай зерня. Брацьне хацеў. А прычына ўсяму – чарнобыльская бяда. Нашы людзі не жадаюць выязджаць з наседжаных месц, а некаторыя і назад вярнуліся.

— Нам і жыллё, і работу ў Магілёўскім раёне давалі, — пацвярджае сказанае маці 4-х дзяцей Валянціна Лабыка. – Пабылі каля года, папрацавалі, ды і вырашылі вярнуцца ў свой дом. Цяжкасці, вядома, ёсць, бо апынуліся на водшыбе, як на востраве якім. Суседнічаюць толькі Сілічы, а навокал ніводнай вёсачкі, ні пасёлачка. Праўда, у вёсцы Папаратная яшчэ некалькі двароў засталося. Добра, што дарога асфальтаваная, сувязь з раёнам і цэнтрам калгаса ёсць. Раней нашы продкі па бездарожжу ў Касцюковічы ездзілі. Нязручнасці ў іншым. Школы ў Відуйцах няма. Была раней – пасля Чарнобыльскай катастрофы – закрылі. А ў мяне толькі што скончыў 11 класаў старэйшы сын, двое ж блізнятак у першы клас адпраўляць трэба было. Возяць дзяцей аўтобусам, які да ўсяго, хадзіў нерэгулярна. Праблемы вакол...

Праблемы існуюць, асабліва з-за аддаленасці відуіцкіх зямель ад цэнтра гаспадаркі. У мінулым годзе было закладзена дзве траншэі на тысячы тон сенажу, дык колькі паліва спатрэбілася, каб перавезці корм.

Паляводчая брыгада налічвае 25 чалавек. Людзі ў асноўным маладыя. Ім патрэбна недзе рукі прыкласці. Фермы няма. Застаецца, акрамя сезоннай работы, весці хатнюю гаспадарку. Так відуйчане і паступаюць. Засяваюць соткі, трымаюць кароў на падворках, іншую жыўнасць, амаль кожны другі двор трымае каня.

— Маглі, хаця б на хлеб малако прадаваць, але збіраюць яго нерэгулярна, — паскардзіліся калгаснікі.

У той дзень у Відуіцкім аддзяленні калгаса камбайнеры Іван Свірыдаў і Мікалай Вычыкаў убіралі прыватныя соткі. Відуйчанам яны ўжо збажыну змалацілі, нават 80-гадовай бабцы Наталлі Васіленка, якая скардзілася на няўвагу да яе, і накіраваліся ў Сілічы. Праўда, камбайн Свірыдава мы засталі на машынным двары.

— Паломка здарылася, — тлумачыць Іван Уладзіміравіч, — сам яе і ўхіляю. Камбайну, як бачыце, 12-ы сезон. Рамантаваць няма чым : ні запчастак, ні гаручага. Няма патрэбнага ўліку рабочых дзён. Працаваць будзем, было б толькі за што.

Можна прыводзіць астранамічныя лічбы запазычанасці калгаса толькі за нафтапрадукты, але ж і людзей разумець трэба. Той жа Д. Баброў выказаў думку аб фермерстве, знайшоўся б такі гаспадар. Ці яшчэ якія захады прыняць, скажам, арганізаваць самастойную гаспадарку. Людзі ёсць, дзе што з гаспадарчых пабудоў захавалася. Не ездзіць жа відуйчанам на ўборку буракоў у Сялецкае за 30 кіламетраў.

Варыянтаў, як захаваць калектыўнае гаспадаранне, калгаснікі называюць некалькі. Можа варта прыслухацца да іх, на водшыбе жыць яны проста не жадаюць.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

## Поздравляем!

Сердечно поздравляем с бракосочетанием
***ХАРИТОНЕНКО Игоря и АНДРУХОВИЧ Валентину***

*Желаем вам большого счастья,*
*Чтобы всегда была весна,*
*Чтоб никогда не знать ненастья*
*И были чистыми сердца.*
*Чтоб вы друг другу доверяли,*
*Прошедших не считали лет,*
*С годами верность сохраняли*
*И разных не боялись бед.*
*С любовью, нежностью большой*
*По жизни вы идите,*
*До самой свадьбы золотой*
*В согласии живите,*
*Пусть не померкнет никогда*
*Счастливой жизни зорька,*
*Пусть будет сладко вам всегда,*
*Ну а сегодня: "Горько!"*

***Коллектив Костюковичской участковой ветлечебницы.***

ХХХ

Сердечно поздравляем с 55-летием со дня рождения
***КАПЛУНОВУ Марию Петровну***

*У Вас сегодня день рожденья*
*И мы от всей души желаем –*
*Прожить Вам много-много лет,*
*Печали, горестей не зная.*
*Пусть не пугают Вас года,*
*Ещё их столько в жизни будет,*
*Пусть будут в спутниках всегда*
*Доброжелательные люди.*
*Пусть ангел Вас всегда хранит –*
*Ведь в жизни всякое бывает,*
*Пусть горе в двери не стучит,*
*А радость Вас не забывает.*

***Коллектив филиала 712 ОАО СБ "Беларусбанк".***

ХХХ

Сердечно поздравляем с днём рождения
***СУДИЛОВСКОГО Александра Петровича***

*Желаем счастья в этот день,*
*Тепла от тех, кто с Вами рядом,*
*Улыбки светлой на лице*
*И солнечных лучей в награду.*
*Неутомимо мчат года –*
*Их удержать не в нашей власти,*
*Так пусть же будет так всегда:*
*Чем больше лет – тем больше счастья.*

***Коллектив райветстанции и участковой ветлечебницы.***

ХХХ

Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогую, любимую жену, мамочку, бабушку
***ХОМЧЕНКО Софью Васильевну***

*Пусть печали в твой дом не заходят,*
*Пусть болезни пройдут стороной,*
*Мы весь мир поместили б в ладони*
*И тебе подарили б одной.*
*Но и этого было бы мало,*
*Чтоб воздать за твою доброту,*
*Мы всю жизнь, наша милая мама,*
*Пред тобой в неоплатном долгу.*
*Спасибо, родная, за то, что растила,*
*За то, что взамен ничего не просила,*
*Во всем лучшей доли желала ты нам.*
*Красива, заботлива, очень нежна*
*Ты нам ежедневно и вечно нужна.*

***Муж, дети, внуки.***

ХХХ

От всего сердца поздравляем с юбилеем со дня рождения
***ХОМЧЕНКО Ивана Ивановича***

*Желаем счастья, светлых дней,*
*Здоровья, что всего ценней,*
*Дороги жизни подлинней*
*И больше радостей на ней.*

***Мама, сестры и их семьи.***

ХХХ

Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку
***ДРАЧЁНА Полину Ивановну***

*Счастья, родная, тебе, здоровья крепкого, долгих лет жизни и сил на всё, что ещё предстоит. Мы тебя любим.*

***Дочь, зять, внучка.***

ХХХ

*От всей души поздравляем с днём рождения дорогую мамочку, жену*
***ДРАЧЁНА Полину Ивановну***

*Сколько помним тебя,*
*Вся в делах и заботах,*
*В сердце столько тепла,*
*Что хватает на всех.*
*Пусть пошлёт тебе Бог*
*Исполненья желаний.*
*С днём рожденья тебя,*
*Наш родной человек!*

***Муж, сын.***

ХХХ

Горячо и сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения
***ДРАЧЁНА Полину Ивановну***

*Полсотни лет – хороший срок*
*И нет нужды печалиться,*
*Пускай ещё полста пройдёт,*
*Не надо только стариться.*
*И в этот светлый, славный день*
*Вас мы поздравляем,*
*Здоровья, счастья и добра*
*От всей души желаем!*

***Сваты Шуниборовы.***


**ОТКРЫТОМУ АКЦИОНЕРНОМУ ОБЩЕСТВУ "КОСТЮКОВИЧСКИЙ ЛЕСПРОМХОЗ"**

требуются на работу:
***ОБРУБЩИКИ СУЧЬЕВ, ТРАКТОРИСТЫ, ОПЕРАТОРЫ ЧЕЛЮСТНЫХ ПОГРУЗЧИКОВ, ВОДИТЕЛИ КАТЕГОРИИ "Е".***
Зарплата сдельно-премиальная.
*ВОДИТЕЛИ КАТЕГОРИИ "Е" ОБЕСПЕЧИВАЮТСЯ ЖИЛЬЁМ.*
**ДИРЕКЦИЯ.**

**ПРОДАЮ**

3-х комнатную кооперативную квартиру по ул. Ленинская, д. 126, общей площадью 73,1 кв, м. Есть газовая колонка. Цена договорная, можно в рассрочку. Тел.: 21-3-74, 22- 1-52, до 8.00 – утром, после 21.00 – вечером.

ХХХ

дом с хозпостройками по ул. Жбанкова, 8. Тел.: 52-8-90.

ХХХ

сено. Тел.: 31-1-12.

В связи с перерегистрацией **Костюковичское районное топливно-сбытовое предприятие** в дальнейшем именовать ***Костюковичское унитарное коммунальное дочернее предприятие "Топсбыт" (Костюковичское УКДП "Топсбыт").***

**"ОСП" "Коопзаготпром" Костюковичского райпо**

закупает у населения **КАРТОФЕЛЬ** по цене 70 рублей за 1 килограмм.

**ДИРЕКЦИЯ.**


## НАМ ПІШУЦЬ

# Удзячны педагогі кіраўнікам

*Муравільская сярэдняя школа ўжо трэці раз пачала заняткі ў новым будынку. Але каб адбылося свята 1 верасня, была праведзена вялікая работа па падрыхтоўцы школы да 2000-2001 навучальнага года. Вялікую дапамогу ў гэтым аказалі многія кіраўнікі раёна.*

*Заўсёды з разуменнем адносіцца да патрэб школы старшыня мясцовага калгаса "Кранштат" Аляксандр Ягоравіч Нікалаенка. Ён часта дапамагае нам у вырашэнні розных пытанняў.*

*Вучні і настаўнікі шчыра ўдзячны Уладзіміру Аляксеевічу Кісялёву – дырэктару Беларускага цэментнага завода, які аказаў спонсарскую дапамогу ў рамонце школы. Не з'яўляецца базавай гаспадаркай і лясгас, але яго дырэктар Васіль Антонавіч Цярэшчанка з разуменнем аднёсся да патрэб школы і паклапаціўся аб выдзяленні піламатэрыялаў.*

*Вялікую падзяку хочацца выказаць таксама ў адрас кіраўніка ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія" Сяргея Іванавіча Віннікава.*

***Валянціна КУДАШОВА,***
***дырэктар Муравільскай сярэдняй школы.***

**Калектыў Мурынборскай СШ выказвае глыбокае спачуванне МАРТЫНАВАЙ Ірыне Іванаўне з выпадку смерці МАЦІ.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя –2-23-55.*

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.**
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1528 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 1. 09. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 68*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**